www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 85 (4234)**

27 кастрычніка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІЗІТ

## Павел КАЛАУР: пытанне аб крэдыце разглядацца не будзе

*У Мінску пачала працу місія Міжнароднага валютнага фонду.*

Узначальвае яе Пітэр Долман. У беларускай сталіцы эксперты прабудуць па 10 лістапада. Анансуецца, што падчас візіту адбудуцца штогадовыя кансультацыі з уладамі Беларусі адносна сітуацыі ў эканоміцы.

Безумоўна, галоўнае, што хвалюе многіх, ці будзе падчас гэтых сустрэч узнята пытанне аднаго крэдыту для Беларусі. Кіраўнік Нацбанка Беларусі Павел Калаур запэўніў, што не будзе. *"Місія МВФ будзе штогадовая, планавая, – сказаў Калаур. – Мы, безумоўна, будзем разглядаць у цэлым макраэканамічную сітуацыю ў краіне, будзем разглядаць тыя змены, якія адбываліся на працягу гэтага года, а таксама планы, якія мы акрэслілі на пяць гадоў... Што да канкрэтнай праграмы, якая магла б падтрымаць фінансава змены, што адбываюцца ў краіне, то падчас працы гэтай місіі МВФ гэтае пытанне не плануецца да разгляду".*

СТОП-КАДР

## З першым снегам!



Учора ў Беларусі выпаў першы снег. Сіноптыкі паведамляюць, што мокры снег і дажджы чакаюцца таксама ў выхадныя.

Сёння днём +5...+11°С. А ўжо ў суботу надвор'е абумовіць чарговая сістэма франтальных раздзелаў, якія перамяшчаюцца з Балтыйскага мора. На большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы. Уначы і раніцай у асобных раёнах чакаюцца мокры снег, слабыя туман і галалёд. Тэмпература паветра ноччу складзе -2...+5 °С, днём +2...+8°С. У нядзелю тэмпература паветра ноччу складзе ад 0°С па ўсходзе да +7°С па захадзе, днём будзе +3...+9°С.

СКАЗАНА!

## Ёханес Хан разлічвае наведаць Беларусь

Камісар па еўрапейскай палітыцы суседства і перамовах аб пашырэнні Еўрасаюза **Ёханес Хан** разлічвае ў найбліжэйшыя некалькі тыдняў наведаць Беларусь. Пра гэта ён паведаміў у Таліне ў межах чацвёртага бізнес-форуму "Усходняга партнёрства".

Візіт Хана ў Беларусь планаваўся на 17 кастрычніка, але быў перанесены ў сувязі з нечаканымі пытаннямі, якія ўзніклі пры падрыхтоўцы пасяджэння Еўрапейскага савета ў Брусэлі (яно адбылося 19–20 кастрычніка).

*"Спадзяюся, што ў наступныя некалькі тыдняў я прыеду ў Мінск для працягу абмеркаванняў, якія мы пачалі раней, а таксама для абмену думкамі на экспертным узроўні",* – сказаў еўракамісар.

КРИМИНАЛ

## Задержан крупный чиновник Госстандарта

Сотрудники Главного управления по борьбе с организованной преступностью и коррупцией МВД Беларуси задержали руководителя одного из департаментов Государственного комитета по стандартизации. Об этом сообщает пресс-служба МВД.

Правоохранители узнали, что чиновник за откаты решал вопросы, входящие в его компетенцию. Операция была проведена в несколько этапов.

В Минском районе при получении взятки в размере 20 тысяч долларов США был задержан житель столицы, который ранее также занимал высокую должность в одной из инспекций Госстандарта. Согласно показаниям задержанного, деньги предназначались для передачи руководителю Департамента Государственного комитета по стандартизации. В результате оба были задержаны.

«Как выяснилось, с августа 2013 года по январь 2015 года чиновник получил от представителей коммерческих организаций в качестве взяток 35 тысяч долларов США и 30 миллионов неденоминированных белорусских рублей, а также другие материальные ценности. Щедрая "благодарность" коммерсантов предлагалась за выдачу разрешений на производство строительно-монтажных работ и безоговорочное решение иных вопросов, входящих в компетенцию чиновника», – рассказали в милиции.

Следственным комитетом в отношении задержанных возбуждено 7 уголовных дел по различным статьям Уголовного кодекса Беларуси.

При проведении обысков по месту жительства чиновника в различной валюте изъято около 10 тысяч долларов США, около 60 тысяч долларов США заблокировано на банковских счетах. Наложен арест на четыре квартиры, земельный участок, денежные средства и иное имущество фигурантов на общую сумму порядка одного миллиона белорусских рублей.

В структуре Государственного комитета по стандартизации Беларуси есть два департамента: по энергоэффективности и контроля и надзора за строительством. Руководители департаментов также являются заместителями председателя Государственного комитета по стандартизации (Госстандарта).

Имя задержанного чиновника милиция не называет.

ЗДАРЭННІ

## Слізкія дарогі...

Першы снег і галалёдзіца сталі прычынай жорсткіх аварый.

Учора пад Магілёвам у лабавым сутыкненні аўтамабіляў Volkswagen Passat і Toyota пацярпелі пяць чалавек, у тым ліку двухгадовае дзіця. А пад Мінскам у аварыі загінула 31-гадовая жанчына – кіроўца Ford Focus. Яна не ўлічыла ўмовы надвор'я, не справілася з кіраваннем, у выніку чаго аўтамабіль выкінула на паласу сустрэчнага руху, дзе ён урэзаўся ў аўтобус. Ад атрыманых траўмаў кіроўца легкавушкі памерла на месцы здарэння. На здымку тое, што засталося ад Ford Focus *(на здымку справа).*





ТОЧКА ЗРЕНИЯ



**Александр ФЕДУТА**

## На России ли сошелся клином белый свет?

Россия готовится избирать президента. Выборы пока не объявили, но претенденты и претендентки уже начали свою суету. И кое-кто в Беларуси начинает это комментировать так усердно, как не комментирует собственные выборы – ну, не президентские, конечно, до них нам еще далеко, – а вот выборы в местные Советы на носу. Хотя от выдвижения кандидата в президенты России у нас изменится так же мало, как от выдвижения кандидата в Пуховичский райсовет. Вернее, еще меньше изменится.

На днях с экрана государственного Белорусского телевидения прозвучал призыв перестать реагировать на каждый чих российских политических и эстрадных звезд. Сказал об этом человек, который во многом определяет – вот уже двадцать шесть лет! – белорусскую информационную политику. Министры меняются, а запах дорогого табака с газетных страниц не выветривается. Так и хочется спросить:

– А что, несменяемый вы наш, у вашей газеты корпункты есть где-нибудь, кроме России? Да, помнится, еще в Пекине был. Но вот в Киеве, в Варшаве, в Вильнюсе? Или у белорусского государственного телевидения – кроме Москвы? Свет клином на ней сошелся?

Информационная политика белорусского государства оказалась настолько «россиецентричной», что сейчас наша власть, похоже, сама этому ужасается. Но вот даже побеседали президенты Беларуси и Украины друг другу обменяться телеканалами, но украинского телеканала в белорусских – государственных! – кабельных телесетях до сих пор нет. То ли президент Лукашенко обманул президента Порошенко, то ли белорусские телесети белорусскому президенту не подчиняются. Но нет в наших телесетях не только украинских, но и польских, литовских, немецких, английских телеканалов. Кажется, промелькнул китайский – в порядке эксперимента? Но, нет – это в Киеве, когда я работал там собкором «Народной Воли», смотрел я китайский телеканал, вещающий на русском языке.

Посмотрите на карту гастролей. Да, престарелые звезды всемирной величины, ушедшие на покой в других странах, все еще заезжают к нам с «чёсом» – почему не заехать, если платят. Но в основном мы получаем объедки со стола российской эстрады. Разговаривал я с одним из организаторов гастролей, привозящим к нам попсу. Он честно говорит:

– Получить гастрольное удостоверение для исполнителя из третьей страны у нас – так проще гороху наестся на всю жизнь! Я ведь не могу объяснить, о чем он поет, а с самого исполнителя тексты песен не затребуешь...

Не знаю, правда ли это, но что-то до боли знакомое... Ах, да! Тексты песен требовались в советскую эпоху – ибо песня могла разрушить самый нерушимый союз республик свободных. И мы все опять оказываемся пленниками государственной идеологии, заморозившей страну на десятки лет и до сих пор не оттаявшей.

Нужно понять: мы живем в огромном мире, и референдум о независимости Курдистана, как ни странно, или кризис вокруг Северной Кореи могут иметь для всех нас куда большие последствия, чем выдвижение в президенты России Ксении Собчак. Но о Собчак газеты сообщат на первых (ну ладно, на вторых) полосах, а о событиях, которые могут реально вызвать третью мировую войну, напишут между прочим и в «разном». О несостоявшемся бунте Михаила Саакашвили белорусские телеканалы расскажут со слов российского телевидения. Мир сошелся клином на том векторе, который был задан в мае 1995 года, и изменить ситуацию очень сложно.

Хотя все равно придется, ибо необходимо.

Когда-то пресловутый полковник Заметалин объяснил отключение трансляции с московского парада 9 Мая тем, что Беларусь – суверенная. А потому мне хочется хоть мысленно, но представить тот день, когда мы увидим прямую трансляцию событий из Берлина, Лондона, Пекина, Вашингтона и Барселоны, начинающуюся словами: «Корреспонденты Белорусского телевидения передают...» И тогда на концертных площадках и театральных сценах страны мы увидим не только Валерию и очередной призыв масляковского «КВН», но и молодых и модных исполнителей из европейских, азиатских и иных стран, это, с моей точки зрения, будет гораздо лучшим доказательством нашей многовекторной политики и суверенитета. Хотя бы потому, что у всех нас будет реальный выбор.

ВЫБАРЫ

## Ярмошына не выключае...

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі **Лідзія Ярмошына** пракаментавала БелаПАН неафіцыйную інфармацыю аб тым, што падрыхтаваны змены ў Выбарчы кодэкс і наступныя парламенцкія выбары пройдуць па прапарцыянальна-мажарытарнай сістэме.

*"Я нічога не магу сказаць – ні прызнаваць, ні абвяргаць, бо мне нічога не вядома. Падобных даручэнняў я не атрымлівала. Калі гэтыя чуткі распаўсюджваюцца, то адразу ж магу сказаць, што яны ніякага дачынення не маюць да афіцыйнага статус-кво, якое існуе цяпер",* – заявіла Ярмошына.

Пры гэтым кіраўнік ЦВК дадала, што *"усё магчыма". "Чаму не? Выбары павінны прайсці не пазней за восень 2020 года, таму часу шмат, змены магчымы",* – сказала Ярмошына.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Хто такі Вадзім Лунгін, якога Харватыя выдала за «нелегальную» забудову ў Мінску

Стала вядома імя бізнесмена, якога днямі экстрадзіравалі з Харватыі ў Беларусь у межах справы пра "нелегальную" забудову ў Мінску.

Гэта 54-гадовы **Вадзім Лунгін**. Яго падазраюць у арганізацыі схемы, якая дазволіла будаваць у Мінску шматкватэрныя дамы замест катэджаў.

Справа супраць яго і яго кампаньёна была распачата ў 2014 годзе, калі Генпракуратура распавяла пра прыкладна 50 будынкаў у Першамайскім раёне Мінска, пабудаваных з парушэннямі. У асноўным яны месцяцца недалёка ад Севастопальскага парку, але праблема актуальная для ўсяго горада.

Вадзім Лунгін нарадзіўся ў Мінску 24 красавіка 1963 года. У 2000 годзе скончыў факультэт эканомікі і ўпраўлення гандлем БДЭУ. Атрымліваецца, што будаваць шматкватэрныя дамы па схеме, якую апісваюць Генпракуратура і Следчы камітэт, ён пачаў, яшчэ атрымліваючы эканамічную адукацыю.

Жонцы Вадзіма Лунгіна **Надзеі Варанецкай** 37 гадоў. У іх ёсць маленькая дачка.

### Як працавала схема?

У цэнтры Мінска забудоўшчыкі куплялі старэнькі дом у прыватным сектары. Паводле дакументаў, яго пачыналі рэканструяваць, ператвараючы нібыта ў двухкватэрны жылы дом.

Але на самай справе пасярод аднапавярховых дамкоў вырастаў будынак не на дзве і не на тры, а на 10–20 кватэр. Часам будаўніцтва ажыццяўлялася за кошт забудоўшчыка, часам – за грошы дольшчыкаў, якія неўзабаве ўязджалі ў кватэры.

У 2000-я легальнасць гэтай схемы не выклікала сумневаў – Лунгін з партнёрам быццам бы знайшлі шчыліну ў заканадаўстве. Але ў 2014 годзе Генпракуратура, правяраючы абставіны забудовы, вырашыла, што заканадаўства ўсё ж парушана. Тады, у 2014 годзе, Генпракуратура сцвярджае, што схема працавала з 2006 года. Цяпер Следчы камітэт сцвярджае, што першыя "нелегальныя" дамы былі пабудаваны ў 1999 годзе.

### Колькі дамоў паспелі так пабудаваць?

Лічба, якую Генпракуратура называла ў 2014 годзе, зменшылася ў 2,5 раза. Следчы камітэт паведамляе пра 18 шматкватэрных дамоў, пабудаваных там, дзе, паводле дакументаў, мусілі з'явіцца катэджы.

Дарэчы, Лунгін, як і яго кампаньён, паспеў з'ехаць з Беларусі яшчэ да таго, як была распачата крымінальная справа. За мяжой ён правёў каля чатырох гадоў. Але ў жніўні 2017 года Лунгіна затрымалі ў Харватыі пры спробе выехаць з краіны. У сярэдзіне кастрычніка яго перадалі беларускім праваахоўнікам.



*"Еўрарадыё".*

100 РАДКОЎ

МІХАСЯ СКОБЛЫ



# «Іменем СССР – расстраляць…»

Самая высокая гара ў свеце – не Эверэст у завоблачным Непале, куды з зацятасцю самагубцаў едуць і едуць альпіністы з усёй планеты. Самая высокая гара ў свеце – Галгофа. Бо толькі яна можа ўзнесці чалавека на вышыню недасяжную, якая чэмпіёнам-альпіністам і не снілася. Прычым каб узысці на Галгофу, неабавязкова ехаць у Ерусалім. Гара тая – рухомая, і сама можа прыйсці ў патрэбнае месца ў патрэбны час. У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года Галгофа знаходзілася ў Курапатах пад Мінскам, куды везлі і везлі невінаватых людзей на згубу.

У катаў-энкавэдыстаў не трэсліся рукі – працаваў добра наладжаны канвеер смерці. Чарговая машына. Яма. Стрэл у патыліцу. Колькі можна расстраляць за змену, выканаўшы ўсе санітарна-гігіенічныя нормы? Дваццаць, трыццаць чалавек? Быў у сістэме НКВД такі капітан Мацвееў, які ўласнаручна пазбавіў жыцця 1111 асуджаных. Праўда, за пяць начэй. Відаць, імкнуўся да нейкай знакавай лічбы, спадабаліся яму чатыры адзінкі. Ці проста так супала.

У Курапатах падобная бухгалтэрыя, хутчэй за ўсё, таксама вялася. Толькі і па сёння яна за сямю замкамі. Таму і дагэтуль дакладнай лічбы расстраляных няма. Дакладна вядома толькі, што дзень 29 кастрычніка стаў апошнім для 22 пісьменнікаў. Сярод іх быў і **Алесь Дудар** – маладняковец-бузацёр, харызматычны і энергічны прадстаўнік літаратурнага пакалення, якое амаль у поўным складзе пайшло на наканаваную яму Галгофу.

Маладыя хлопцы, якія паверылі ў беларусізацыю, у тое, што Беларусь сапраўды займае свой пачэсны пасад між народамі. А як было не паверыць, калі – упершыню ў гісторыі – па-беларуску загаварылі школа, вярхоўная ўлада, нават войска? Гісторык Мікалай Улашчык пазней настойваў, што "ў 1920-я гады беларусы мелі сваю дзяржаву".

Дваццацідвухгадовы Алесь Дудар, безумоўна, адчуваў сябе будаўніком і абаронцам тае дзяржавы. Ён быў адным са стваральнікаў паўтысячнага "Маладняка", які праяўляў сябе па ўсёй рэспубліцы, першым у беларускай паэзіі ўславіў у вершах прызабытых тады Скарыну і Каліноўскага, ездзіў абуджаць ад летаргічнага сну праблемны горад Полацк, бараніў у друку нацыянальны тэатр ад нашэсця нізкапробных расійскіх аўтараў, дэманстратыўна пакідаў сваю альма-матэр – БДУ, дзе недастаткова паважалі беларускіх пісьменнікаў…

А калі пабачыў, што ад публічных лістоў і дэманстрацый толку мала і беларусізацыя па камандзе зверху пайшла на спад, адчайна пайшоў у бой з адкрытым забралам. Напісаў непрыхавана антысавецкі верш "Пасеклі Край наш папалам", чытаў яго сябрам і знаёмым, ахвотна даваў перапісаць. Такі ўжо меў характар, не хацеў ісці ў падпольшчыкі. Зрэшты, з паэтаў, як правіла, дрэнныя канспіратары, ім хочацца дзяліцца сваім горам ці радасцю з усім светам. Так, Восіп Мандэльштам, ужо сасланы ў Варонеж за антысталінскі верш "Мы живем, под собою не чуя страны", пазбаўлены чытачоў і слухачоў, чытаў свае новыя творы па тэлефоне… следчаму.

Верш Дудара ў ціхамірнай Беларусі выбухнуў як бомба, ён біў у самыя болевыя кропкі: *"Пасеклі Край наш папалам, / Каб панскай вытаргаваць ласкі. / Вось гэта – вам, а гэта – нам, / Няма сумлення ў душах рабскіх... / За ўсходнім дэспатам-царком / Мы бегаем на задніх лапах, / Нью-Ёрку грозім кулаком… / Не смеем нават гаварыць / І думаць без крамлёўскай візы… / О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні / Такі разлом, туга такая! / І баюць байкі баюны Северо-Западного края…"*

Як ні дзіўна, напісаны 90 гадоў таму верш актуальны і ў нашы дні, бо баюны тыя не звяліся ў Беларусі да гэтай пары.

Аўтару верша далі пяць гадоў высылкі ў Курск (Варонеж і Курск – гэта вам не пазнейшая Калыма). На радзіму паэт вярнуўся паспакайнелым, але не зламаным, гатовым па-ранейшаму самасцвярджацца і адстойваць правы народа на самасцвярджэнне. А тут акурат і добрая нагода надарылася – набліжалася 100-годдзе з дня смерці Пушкіна, і тэрмінова спатрэбіліся пераклады яго найважнейшых твораў на беларускую мову..

Як вы думаеце, каму Янка Купала (старшыня Пушкінскага юбілейнага камітэта) даверыў пераклад "Яўгенія Анегіна"? Алесю Дудару, у кім адчуваў і паэтычнае майстэрства, і культурны ўзровень, неабходныя для такой маштабнай працы.

І Дудар бліскуча справіўся з заданнем, нават паспеў пачытаць свайго "Анегіна" ў мінскім Доме пісьменніка. Відавочцы пазней ўспаміналі: ішла шматгадзінная радыётрансляцыя, і звонкі голас перакладчыка гучаў на ўсіх сталічных скрыжаваннях, у крамах і цырульнях. Калі Дудар дачытваў апошнія радкі, у Дом пісьменніка сышліся сотні радыёслухачоў, яблыку не было дзе ўпасці.

А праз два дні пасля трыумфальнага чытання – 31 кастрычніка 1936 года – Алеся Дудара арыштавалі. Прыгадаўшы старыя грахі, прыпісаўшы новыя. І роўна праз год расстралялі ў Курапатах – "іменем Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік", у ліку тых 22-х. Дудару не споўнілася і 32-х. Для пісьменніка – самы творчы ўзрост.

Увогуле, у 1930-я гады беларуская літаратура была выкашана касой бальшавіцкага тэрору акурат у росквіце талентаў. Перад узыходжаннем на Галгофу Максіму Гарэцкаму было 45, Міхасю Чароту – 40, Адаму Бабарэку – 39, Міхасю Зарэцкаму, Уладзіміру Хадыку, Паўлюку Шукайлу і Сяргею Дарожнаму – па 35, Тодару Кляшторнаму – 34, Лукашу Калюгу і Валерыю Маракову – 28, Алесю Салагубу – 27…

У савецкім літаратуразнаўстве пра іх пісалася: верылі ў партыю, падтрымлівалі нацыянальную палітыку Крамля і г.д. Хто і сёння так думае, хай прачытае вершы Алеся Дудара "Цені блудзяць па твары", "Я радзіўся за хатай пад плотам", той жа "Пасеклі Край наш папалам", якія зберагліся ў следчай справе і ўвайшлі ў толькі што выдадзены выдавецтвам **"Лімарыус"** збор твораў, з любоўю і веданнем справы ўкладзены даследчыцай **Ганнай Севярынец**. Тамсама чытач знойдзе і беларускага "Яўгенія Анегіна", і прозу паэта, і яго баявую публіцыстыку, і лісты, і звароты яго родных да Берыі з просьбай паведаміць месцазнаходжанне брата і сына. Маці дажыла да 90, але так і не даведалася, дзе і калі расстралялі яе Алеся...

Самы знакаміты верш Дудара заканчваецца радкамі: *"І са шчытом ці на шчыце / Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем"*. І сёння паэт нарэшце вяртаецца ў вымраеную ім краіну – як спартанскі воін, на шчыце пасмяротнай славы. А таму – gloria victis! – слава пераможаным!

АФІЦЫЙНА

# Акцыі не прадаюцца...

"Беларусбанк" зацвердзіў стратэгію свайго развіцця да 2020 года, уласнік банка ў асобе дзяржавы адклаў пытанне аб продажы мінарытарнага пакета акцый банка, паведаміў намеснік старшыні праўлення банка **Віктар Перапяліца**.

Паводле яго слоў, у 2016 годзе прыбытак банка склаў 123,9 млн долараў, рэнтабельнасць капіталу – каля 9%.

ГУЧНЫЯ СПРАВЫ

# Баранчыка Масква не выдала, Арбузаву налічылі 40 мільёнаў нявыплачаных падаткаў

*Днямі старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч расказаў журналістам пра рэзанансныя справы, якімі займаюцца следчыя СК.*

## Хутка суд

Наскевіч паведаміў, што закончана расследаванне па справе трох арыштаваных беларускіх аўтараў расійскага інфармагенцтва Regnum – **Юрыя Паўлаўца, Сяргея Шыпценкі і Дзмітрыя Алімкіна**. 17 кастрычніка крымінальная справа перададзена ў Мінскі гарадскі суд.

Што цікава: як вядома, усіх трох аўтараў напачатку абвінавачвалі ў распальванні расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці, здзейсненым групай асоб. Але, як высветлілася, па адным гэтым артыкуле судзіць будуць толькі Алімкіна. Паўлаўцу і Шыпценку дадаткова выстаўлена абвінавачанне ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

Чацвёрты фігурант гэтай справы – Юрый Баранчык, шэф-рэдактар Regnum, беларус, які жыве ў Маскве, абвешчаны ў міжнародны дзяржаўны вышук, хоць вядома, што знаходзіцца ён у Расіі. Старшыня СК падкрэсліў, што справа Юрыя Баранчыка вылучана ў асобную вытворчасць. *«Расійскі бок нам яго не выдаў, будзем чакаць»*, – заявіў Наскевіч.

Дарэчы, справа Regnum налічвае 17 тамоў.

## «На працягу восені паставім кропку»

Што тычыцца справы «Белага легіёна», «*баевікоў, якія рыхтавалі правакацыю са зброяй*» і былі затрыманы напярэдадні Дня Волі, абвінавачаны ў стварэнні незаконнага ўзброенага фарміравання, а потым адпушчаны з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе, то Іван Наскевіч паведаміў наступнае: «*Расследаванне справы працягваецца. Там падстаў разбірацца да бясконцасці няма. Я думаю, што на працягу восені мы ўжо паставім кропку ў гэтай справе*».

## «Трэба даразбірацца»

Больш як паўгода пад вартай утрымліваецца вядомы беларускі бізнесмен, старшыня савета дырэктароў групы кампаній Fenox Global **Віталій Арбузаў.** Яго затрымалі 12 красавіка 2017 года па падазрэнні ў нявыплаце падаткаў, а таксама неправамерным атрыманні з бюджэту ПДВ.

Старшыня Следчага камітэта паведаміў, што Арбузаву працягнулі тэрмін утрымання пад вартай да 12 студзеня 2018 года. "*Падставай для гэтага паслужыла атрыманне Следчым камітэтам канчатковага варыянта ўсіх у сукупнасці актаў праверак фінансава-гаспадарчай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання, падкантрольных Арбузаву*, – заявіў Наскевіч. – *У адпаведнасці з гэтым сума нявыплаты падаткаў дасягае парадку 40 млн рублёў. Гэта сур'ёзныя сумы, і нам трэба даразбірацца*".

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДАРЭЧЫ

### На целе Аляксандра Коржыча няма ніводнага пашкоджання, за выключэннем слядоў ад павешання

Следчы камітэт атрымаў заключэнне судова-медыцынскай экспертызы ў сувязі са смерцю ў вайсковай часці пад Барысавам радавога Аляксандра Коржыча, паведаміў старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч.

«*У адпаведнасці з заключэннем, на целе загінуўшага Коржыча няма ніводнага цялеснага пашкоджання, за выключэннем странгуляцыйнай баразны* (след ад пятлі, які ўтвараецца пры павешанні. – ***БелаПАН.***). *Уся інфармацыя, што была ў інтэрнэце, нібыта жывога месца не было, яна, вядома, не адпавядае рэчаіснасці. Тыя сляды на целе, якія сваякі і сябры лічылі слядамі збівання, – гэта ўжо пасмяротныя змены, так званыя трупныя плямы*», – сказаў кіраўнік СК.

Паводле слоў Наскевіча, на гэты момант распачаты і злучаны ў адну вытворчасць у сувязі з гібеллю Коржыча ўжо 13 крымінальных спраў. «*Гэта і нестатутныя ўзаемаадносіны, і халатнасць, і махлярства*», – дадаў ён.

Старшыня СК удакладніў, што па-ранейшаму следства разглядае тры версіі здарэння: самагубства, давядзенне да самагубства, наўмыснае забойства. «*Я не магу зараз сказаць, што нейкая з іх прэвалюе*», – адзначыў Наскевіч.

# Затрыманы за карупцыю чыноўнік папрасіў Лукашэнку аб памілаванні

Старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч паведаміў, што крымінальная справа ў дачыненні да былога кіраўніка Ленінскага раёна Мінска Валерыя Куляша, якога затрымалі летам 2016 года, перададзена пракурору яшчэ ў маі 2017 года. "*Справа так і знаходзіцца ў пракуратуры, бо ён звярнуўся з хадайніцтвам аб памілаванні. Рашэння пакуль няма. Гэта няхуткі працэс*", – дадаў кіраўнік СК у каментарыі tut.by.

Падача Куляшом прашэння аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці на імя кіраўніка дзяржавы значыць, што экс-чыноўнік прызнаў віну і кампенсаваў шкоду.

Перыяд разгляду прашэння можа быць розным: і месяц, і тры, і паўгода. Канкрэтнага тэрміну няма. Калі рашэнне будзе станоўчым, то пракурор спыніць расследаванне крымінальнай справы. Калі адмоўным – перадасць яго ў суд пры наяўнасці ўсіх астатніх умоў.

Крымінальная справа ў дачыненні да Куляша была заведзена па ч.3 арт.426 КК РБ (Перавышэнне службовых паўнамоцтваў). Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

Паводле версіі праваахоўнікаў, чыноўнік перавысіў службовыя паўнамоцтвы з асабістай і карыслівай зацікаўленасці пры выкананні функцый па размеркаванні, раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржмаёмасці.

Куляшу таксама інкрымінавалі прадастаўленне прэферэнцый падкантрольным арганізацыям на правядзенне падрадных работ на тэрыторыі Ленінскага раёна.

Акрамя таго, паводле версіі праваахоўнікаў, работнікі прадпрыемстваў, якія ён курыраваў, бясплатна працавалі на будоўлі загараднага дома чыноўніка. Тэлеканал СТБ паведаміў, што перавышэнне службовых паўнамоцтваў пацягнула прычыненне шкоды аднаму з прадпрыемстваў Ленінскага раёна.

Куляша прызначылі кіраўніком Ленінскага раёна ў снежні 2009 года. Да гэтага ён узначальваў «Мінскзеленбуд».

РЕГИСТРАТУРА

# Пациентов с диагнозом «рак предстательной железы» в 6 раз больше, чем 20 лет назад

*Белорусские онкологи разработали и провели популяционный скрининг рака предстательной железы.*

Пилотный проект осуществлялся в Молодечно, Солигорске и Первомайском районе Минска. В исследовании участвовала 21 тысяча мужчин, у 250 медики выявили рак предстательной железы, который тут же был пролечен.

– *К разработке программы нас подтолкнул тот факт, что долгие годы в нашей стране заболеваемость и смертность от рака предстательной железы увеличивалась на 10% ежегодно*, – цитирует одного из исполнителей проекта, заместителя директора по научной работе РНПЦ онкологии и медицинской радиологии, профессора **Сергея Красного** «Медицинский вестник». – *Сегодня таких пациентов в 6 раз больше, чем было 20 лет назад. Рак предстательной железы в основном заболевание пожилых людей. Увеличивается продолжительность жизни, соответственно растет и число пациентов. Еще одна причина заключается в том, что появился метод определения уровня простатического специфического антигена (ПСА), который дает возможность по анализу крови прогнозировать наличие рака предстательной железы (заболевание выявляет последующая биопсия).*

Как отмечает специалист, «*рак предстательной железы развивается медленно: от появления первых раковых клеток до ранних симптомов заболевания проходит в среднем 39 лет. Так что если человека ничего не беспокоило и у него был нормальный анализ ПСА, а потом в 75 лет вдруг выявился рак предстательной железы, можно с уверенностью утверждать, что опухоль ни к каким проблемам в течение ближайших 20 лет не приведет. Поэтому во всех странах придерживаются мнения, что после 70–75 лет ПСА не надо делать. Разумеется, совсем другое дело, если у человека появились нарушения мочеиспускания, боли в костях. К слову, практика показывает, что доля пациентов с 4-й стадией, как ни странно, выше среди более молодых (они идут к врачу лишь тогда, когда станет совсем плохо, пожилые же в поликлинику обращаются чаще)*».

Сергей Красный констатирует: в диагностике заболевания Беларусь существенно продвинулась, а вот с результатами лечения пока отстает. Причина: в ходе ранней диагностики до сих пор еще выявляются 3-я и 4-я стадии заболевания. «*В Молодечно, где скрининг начали проводить немного раньше, чем в Солигорске и Первомайском районе Минска, пациентов с 4-й стадией уже нет. Уверен, после того как будут «выбраны» все запущенные случаи, итоги лечения и показатели смертности приблизятся к результатам ведущих европейских стран. Если сохранится нынешняя динамика (2% снижения смертности в год), то уже через 5–7 лет мы приблизимся к результатам стран-лидеров*», – уверен онколог.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ТРЫВОЖНА!

# 2 мільёны беларусаў у зоне рызыкі

У Беларусі трэць пацыентаў, якія перанеслі інсульт, працаздольнага ўзросту, паведаміў загадчык неўралагічнага аддзела РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі, галоўны пазаштатны неўролаг Міністэрства аховы здароўя **Сяргей Ліхачоў.**

Колькасць інсультаў апошнія гады ў краіне застаецца практычна на адным узроўні. Летась інсульт перанеслі 32,5 тыс. беларусаў. Аднак, адзначыў медык, жыхары Беларусі ў 2–2,5 раза часцей хварэюць на яго, чым жыхары іншых еўрапейскіх краін. Паводле ацэнак урачоў, у Беларусі 2 млн чалавек знаходзяцца ў зоне рызыкі.

Праўда, ёсць і станоўчы момант: за апошнія 10 гадоў скарацілася смяротнасць ад мазгавога інсульту. "*Калі 10 гадоў таму ў нас амаль кожны другі* (хворы на інсульт. – **Рэд.**) *ад інсульту паміраў, то зараз мы гаворым, што смяротнасць у нас набліжаецца да еўрапейскіх паказчыкаў. Смяротнасць у стацыянары цяпер на ўзроўні 13 працэнтаў. І гэта добры паказчык*", – цытуе Ліхачова БелаПАН.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Закон аберагае чыноўнікаў?

***Мінскія гарадскія ўлады не дазволілі пікет ля будынка Міністэрства абароны Беларусі. Акцыя была запланавана як пратэст супраць дзедаўшчыны ў айчынным войску. Заяўку на правядзенне пікета падаваў намеснік старшыні не зарэгістраванага ў краіне Сацыяльна-хрысціянскага руху Максім Гацак.***

– *Штуршком для падачы падобнай заяўкі, безумоўна, стала сітуацыя, якая здарылася ў Барысаве, – гібель Аляксандра Коржыча*, – распавядае "Народнай Волі" **Максім Гацак**. – *Гэта трагедыя ўзрушыла ўсю краіну. Паколькі за ўсё, што адбываецца ў арміі, так ці інакш адказвае Міністэрства абароны, то і месцам для правядзення пратэстнай акцыі намі была выбрана пляцоўка перад будынкам міністэрства. Гэта сусветная практыка – людзі па ўсім свеце пратэстуюць ля тых міністэрстваў і ведамстваў, да якіх маюць прэтэнзіі.*

*Але ў Беларусі сітуацыя зусім іншая: звычайна на правядзенне акцый адводзяць месцы наводшыбе. У Мінску такіх пляцовак дзве – парк Дружбы народаў і Кіеўскі сквер. Але пратэставаць там няма ніякага сэнсу, тым больш пікет, які мы заяўлялі, даволі малаколькасны – да 50 удзельнікаў.*

Днямі Максім Гацак атрымаў афіцыйны адказ з Мінгарвыканкама. Дакумент, дарэчы, напісаны на беларускай мове, падпісаў яго намеснік старшыні **Ігар Юркевіч**. У адказе два абзацы, з якіх можна зразумець, што пададзеная заяўка не адпавядае закону "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", таму "*Мінгарвыканкам не дазваляе правядзенне 29.10 2017 з 12.00 да 14.00 масавага мерапрыемства ў форме пікета на тэрыторыі Мінска*".

– *Адмова была чаканай*, – кажа Максім Гацак. – *Недэмакратычны закон аберагае беларускіх чыноўнікаў ад незадаволенасці грамадзян. Такія адказы з Мінгарвыканкама ствараюць ілюзію таго, што незадаволеных, абураных людзей у краіне няма.*

Абскарджваць адмову ў правядзенні пікета, роўна як і падаваць паўторную заяўку на яго правядзенне актывісты не будуць.

– *У гэтым няма сэнсу, бо адказ будзе такім жа*, – адзначыў наш суразмоўца.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЧУЛІ?

# Прэмію імя Паўла Шарамета атрымаў азербайджанскі журналіст

Цырымонія ўзнагароджвання адбылася днямі на Форуме грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства» (ФГС УП) у Таліне. Кіруючы камітэт форуму ўдастоіў азербайджанскага журналіста Афгана Мухтарлы прэміі Шарамета за "мужнасць у журналістыцы і выдатныя дасягненні ў справе ўнёску ў свабоду слова ў рэгіёне «Усходняга партнёрства» ў 2017 годзе". Узнагароду атрымала жонка журналіста, бо сам ён знаходзіцца пад арыштам.

Афган Мухтарлы з'ехаў у Грузію ў 2014 годзе. 29 мая 2017 года ён знік у Тбілісі, а на наступны дзень паведаміў адвакату, што яго выкралі і гвалтоўна даставілі ў Баку, што гэта была сумесная спецаперацыя грузінскіх і азербайджанскіх сілавікоў.

Прэмія імя Шарамета была заснавана ў 2016 годзе і ўручаецца ў знак прызнання значных заслуг у барацьбе супраць несправядлівасці і парушэнняў правоў чалавека ў рэгіёне "Усходняга партнёрства". Летась лаўрэатам прэміі стаў крымскі журналіст Мікалай Сямена, якога прыгаварылі да ўмоўнага зняволення за артыкул з крытыкай Расіі за анексію Крыма.

**Адар'я ГУШТЫН, БелаПАН.**

ДЗЯРЖАЎНЫ ІНТАРЭС

# Плаціць за цяпло – па лічыльніках

*Сёння толькі 10 працэнтаў кватэр па ўсёй краіне маюць такія прыборы.*

Начальнік упраўлення жыллёвай гаспадаркі Міністэрства жыллёвай гаспадаркі **Андрэй Рамашка** паведаміў, што плату за цяпло па індывідуальных лічыльніках могуць зрабіць у Беларусі абавязковай.

*“Сёння прымаецца рашэнне аб абавязковым выкарыстанні гэтых прыбораў у шматкватэрных жылых дамах, дзе яны ўстаноўлены. Гэта дзяржаўны інтарэс і палітыка ў частцы эканоміі цеплавой энергіі”*, – сказаў Андрэй Рамашка.

Але, аказваецца, у цэлым па краіне доля шматкватэрнага жыллёвага фонду, дзе ёсць магчымасць пакватэрнага ўліку спажывання цяпла, складае ўсяго каля 10 працэнтаў. Прычым карыстаецца ёю менш за палову з гэтых 10 працэнтаў!

*“Гэта ў большай ступені звязана з тым, што методыка пакватэрнага разліку прадугледжвае добраахвотны ўдзел спажыўца ў гэтых мерапрыемствах”*, – адзначыў Андрэй Рамашка. З улікам таго, што за абслугоўванне і разлік індывідуальных прыбораў трэба ўносіць пэўную суму, а тарыфы на цеплавую энергію невысокія, эканамічны эфект для грамадзян невідавочны, і яны не імкнуцца разлічвацца па індывідуальных лічыльніках, дадаў прадстаўнік Мінжылкамгаса.

Паводле інфармацыі ГА “Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка”, абслугоўванне індывідуальных лічыльнікаў сёння ў сталіцы каштуе для адной кватэры 12–15 рублёў у год у залежнасці ад таго, якая арганізацыя аказвае гэтыя паслугі.



«ЛІСТАПАД-2017»

# Посмотреть все и не разориться

В конкурсную программу Минского международного кинофестиваля «**Лістапад-2017**» вошли ни много ни мало 94 фильма. Как посмотреть побольше фильмов без существенного ущерба для кошелька? Впервые «Лістапад» продает абонементы на показы: в итоге стоимость просмотра будет дешевле, чем если покупать билеты на каждый сеанс в отдельности. Предлагается четыре вида абонементов. Стоимость просмотра программы основного конкурса документального кино составит 24 рубля, программы основного конкурса игрового кино – 49,50 рубля. Цена абонемента на конкурс «Молодость на марше» – 27,50 рубля, а на внеконкурсные показы в кинотеатре «Пионер» – 42 рубля.

Любопытная деталь, на которую обратил внимание программный директор фестиваля **Игорь Сукманов**: в национальном конкурсе игрового кино «**Лістапад-2017**» участвуют девять фильмов, восемь из которых созданы женщинами-режиссерами. Белоруски активнее мужчин взялись за отечественный кинематограф? Этот «женский» факт требует отдельного осмысления. Но, с другой стороны, в белорусском документальном кино, которое поборется за призы на конкурсе, гендерные тенденции обратного порядка: из 12 фильмов, отобранных жюри для показа, только одна лента создана режиссером-женщиной. Остальные создавались твердыми мужскими руками.

Очень яркая программа будет представлена на конкурсе «Лістападзік». На нее Игорь Сукманов обратил особое внимание:

– Детское кино – не просто развлекательное. Мы представляем картины, которые очень серьезно разговаривают с молодыми людьми, предлагая им подумать о вступлении во взрослую жизнь без розовых очков. Делается это деликатно, но истинно, правдиво. Мир детства – это всегда проблемы, с которыми самим детям порой в одиночку не справиться. Поэтому мы приглашаем на просмотры и обсуждения и родителей. Надеюсь, что конкурсная программа привлечет не только детей, но и взрослых. Например, картина **Наргеса Абиара** из Ирана **«Дуновение жизни»** – в этом году Иран выставляет ее на премию «Оскар». Кинематография этой страны вообще очень яркая, в прошлом году картина Оскара Фархади «Коммивояжер» как раз «Оскара» и получила. А открывает «Лістападзік» фильм крупнейшего немецкого режиссера **Андреаса Дрезена «Тим Тайлер».** Исполнитель главной роли приедет в Минск.

Жюри детского конкурса возглавит немецкий режиссер **Кай Тэйк.**

Председателем жюри основного конкурса будет венгерский режиссер **Бенедек Флигауф,** обладатель «Залатога Лістапада» прошлого года за фильм «Лили Лейн».

**Виктория ДРОЗД.**

ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ

# Рукапісы не гараць. А архіўныя дасье?

*У Вільнюсе 20–21 кастрычніка прайшоў IV Беларускі праваабарончы форум.*

Прыгожая, чыстая беларуская мова. Прыгожыя жоўтыя лісты клёнаў пад нагамі. Такія ж пазітыўна-прыгожыя жоўтыя майкі на валанцёрах, якія сустракалі дэлегатаў 4-га Беларускага праваабарончага форуму, якія прыехалі ў сталіцу Літвы абмеркаваць праблемы, што наспелі.

## Які колер у салідарнасці

“Чаму такая значная для Беларусі падзея праходзіла ў сталіцы суседняй дзяржавы?” – могуць запытацца некаторыя. Пытанне для думаючай публікі рытарычнае. Зрэшты, адказ на яго прагучаў з самага пачатку працы форуму. **Таццяна Рэвяка**, кіраўнік Беларускага дома правоў чалавека імя Барыса Звозскава, якая звярнулася з прывітальным словам да дэлегатаў, патлумачыла: у знак салідарнасці з тымі праваабаронцамі, каму прыехаць у Вільнюс значна прасцей, чым вярнуцца ў родную краіну. Напрыклад, з **Аленай Танкачовай**, кіраўніком Цэнтра прававой трансфармацыі (Lawtrend), якую ў лютым 2015 года на 3 гады выслалі з Беларусі.

Таццяна Рэвяка прывяла красамоўную статыстыку, якая сведчыць пра рост праваабарончага руху ў нашай краіне: калі ў 2010 годзе ў другім па ліку форуме бралі ўдзел прадстаўнікі 17 арганізацый, для якіх былі не абыякавыя пытанні правоў і свабод беларускіх грамадзян, то ў 2013-м такіх арганізацый налічвалася ўжо 25. (На жаль, статыстыка па першым форуме, як удакладніла Таццяна, не захавалася.) На цяперашні ж 4-ы форум прыехалі прадстаўнікі 29 праваабарончых арганізацый ці тых, якія маюць у сваёй дзейнасці такі кампанент.

Таццяна Рэвяка нагадала дэлегатам і яшчэ адзін паказальны эпізод: чатыры гады таму на папярэднім форуме дэлегатаў сустракаў банер з партрэтам кіраўніка пазбаўленага рэгістрацыі праваабарончага цэнтра “Вясна” Алеся Бяляцкага і словамі “Чакаем вас на волі”. Побач стаяла пустое крэсла, таму што сам Алесь адбываў у гэты час пакаранне за сваю праваабарончую дзейнасць. Чым не добры знак і паказчык эфектыўнасці агульных намаганняў грамадзянскай супольнасці тое, што Алесь Віктаравіч сёння на волі і таксама прыбыў на форум у Вільнюс?

Прыкметы адлігі ва ўзаемаадносінах ўладных структур Беларусі і арганізацый, якія адстойваюць правы чалавека, прывёў у сваім выступленні і сам **Алесь Бяляцкі**. Але гэтыя прыкметы, паводле слоў вядомага праваабаронцы, зусім не такія, якімі можна ганарыцца і здавольвацца. Улады ідуць на дыялог з грамадскімі арганізацыямі вымушана, пад ціскам Еўрасаюза, з якім хочуць палепшыць адносіны. Але ідуць, што называецца, сваім шляхам, замяняючы жорсткія меры на больш мяккія. «*У 2016 годзе была практыка мяккіх рэпрэсій: суткі замяніліся на штрафы, крымінальныя справы, якія мелі палітычны кантэкст, заканчваліся тым, што палітвязні выходзілі на волю, атрымлівалі іншыя пакаранні*», – канстатаваў Бяляцкі. У канцы выступлення ён заклікаў усіх прысутных да салідарнасці – сумесна змагацца за свае і чужыя правы: *“Толькі разам мы можам дамагчыся поспеху!”*

Гэты бясспрэчны пастулат не толькі ад праваабаронцаў – ад усіх дэмакратычных сіл Беларусі я чую даўно, але бачу пакуль іншае. Рэальная салідарнасць, уменне аб’ядноўвацца ў імя высакароднай мэты пакуль застаюцца добрымі намерамі. Аднак на гэты раз, гледзячы, як выступленне Алеся Бяляцкага ўважліва слухаюць не толькі дэлегаты форуму, але і натоўп юных валанцёраў у жоўтых майках каля адчыненых дзвярэй, я падумала: а можа, салідарнасць мае колер не рэвалюцыйна-чырвоны, а... пазітыўна-жоўты? Так-так, і не трэба жартаў і алюзій наконт жоўтай прэсы. Можа, лепш паслухаць парады мудрых псіхолагаў, якія рэкамендуюць у восеньскую непагадзь, калі амаль няма сонца, кампенсаваць яго адсутнасць ярка-жоўтымі фарбамі навокал.

## А твой дзед быў катам ці ахвярай?

Тэзіс пра салідарнасць стаў лейтматывам і выступлення **Жанны Літвіной**, легендарнай стваральніцы ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, арганізацыі, якая больш за 20 гадоў стаіць на варце правоў незалежнай прэсы. Жанна перш за ўсё прапанавала хвілінай маўчання ўшанаваць памяць журналісткі **Веранікі Чаркасавай,** якая загінула 20 кастрычніка 2004 года. А затым прывяла прыклады таго, як БАЖ дапамагае журналістам трымаць кругавую абарону супраць тых, каму не падабаецца сказаная ўголас праўда, для каго свабода слова – пусты гук, а то і брыдкаслоўе. Так, праўда часцяком вочы коле, але хіба чорная павязка на вачах ці ружовыя акуляры дапамогуць абысці бездань, што ўзнікла на шляху да будучыні?

Лепш убачыць рэчаіснасць позна, чым ніколі. Асабліва калі гаворка ідзе пра праблемы, якія сыходзяць каранямі ў мінулае. Я асабліва ўдзячная арганізатарам форуму за тое, што ўключылі ў праграму тэму “Права на ўстанаўленне ісціны. Савецкія рэпрэсіі як аснова сённяшніх парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі”. Прычым не проста ўключылі, а раздалі дэлегатам запрашэнне, падобнае на дасье з архіва, і нават з... пахам гару. Чаму так – зараз зразумееце.

Ініцыятарам гэтага ўражальнага пункта парадку дня і стварэння крэатыўнага запрашэння стаў Беларускі дакументацыйны цэнтр (БДЦ) і яго ідэйны натхняльнік **Раіса Міхайлоўская** – дарэчы, адна з тых, хто ўдзельнічаў у студзені 2004 года ў самым першым Беларускім праваабарончым форуме, праведзеным у лясным масіве непадалёк ад Мінска. БДЦ, які вядзе ўласны мартыралог рэпрэсаваных жыхароў Беларусі, запрасіў распавесці аб вопыце рассакрэчвання савецкіх дасье на палітвязняў **Андрэя Когута**, дырэктара архіва Службы бяспекі Украіны, і загадчыцу аддзела Асобага архіва Літвы **Вільмэ Эктытэ**.

Можна толькі пазайздросціць суседнім краінам: лозунг “Без пакарання зло расце” там з’яўляецца няўхільным настаўленнем да дзеяння. Ва Украіне, паводле слоў Андрэя Когута, прыняты чатыры законы па дэкамунізацыі, пад якія трапіла і архіўная служба. Прычым, што важна, менавіта архіўная служба былога КДБ Украіны. Практычна ўсе, за рэдкім выключэннем, строга засакрэчаныя справы грознага ведамства, перайменаванага сёння ў СБУ, у тым ліку па рэпрэсіях супраць уласнага народа, сталі здабыткам галоснасці. Сёння ў падведамасным А.Когуту архіве знаходзяцца 800 тысяч такіх спраў, або 48 фондаў, доступ да якіх адкрыты. І не проста адкрыты для вывучэння, архівісты па сваёй ініцыятыве рэгулярна праводзяць розныя выставы і інсталяцыі, каб нагадаць аб трагічным мінулым. Напрыклад, прама ў падземным пераходзе Кіева пад Еўрапейскай плошчай арганізавалі вясной мінулага года выставу “Пад саркафагам”, дэманструючы дакументы аб чарнобыльскім выбуху 1986 года, якія трымаліся ў таямніцы ад народа. Пяць аварый на станцыі, 29 аварыйных спыненняў і 63 адмовы абсталявання – вось што папярэднічала чарнобыльскай катастрофе і замоўчвалася партыяй і ўладамі. “Аварыя, па сутнасці, была чаканая, пытанне стаяла толькі: калі гэта здарыцца?” – ашаламіў нечаканай высновай Андрэй Когут.

Не сталі шкадаваць катаў, якія ўдзельнічалі ў рэпрэсіях супраць уласнага народа, і ў Літве. Тут пасля здабыцця краінай незалежнасці таксама перадалі ўсе дакументы былога КДБ, у тым ліку на агентаўстукачоў, у Асобы архіў, распавяла Вільмэ Эктытэ.

Праўда, спадчыннікі чэкістаў зусім не жадалі такой агалоскі, таму паспрабавалі знішчыць многія справы або вывезці іх за межы Літвы. Вільмэ Эктытэ назвала лічбу з даведкі КДБ за 1990 год: знішчана больш за 53 тысячы спраў, з іх больш за 30 тысяч – асабістых дасье агентаў. Звыш 26 тысяч спраў адвезлі ў іншыя краіны, у тым ліку 5 тысяч асабістых спраў агентаў. Фатаграфіі з мяшкамі папяровай габлюшкі, знойдзеныя ў памяшканнях былога КДБ Літвы, спадарыня Эктытэ прынесла з сабой – і ўсе дэлегаты форуму змаглі ўбачыць на вялікім экране, як савецкія спецслужбы замяталі ў 90-х гадах XX стагоддзя свае крывавыя сляды.

На шчасце, усё знішчыць не ўдалося – больш за 200 тысяч дакументаў захавалася. У тым ліку справы на 43 агентаў КДБ, удакладніла Эктытэ. Існуе і картатэка з мянушкамі агентаў і некаторымі біяграфічнымі дадзенымі, а таксама адзін журнал рэгістрацыі з прозвішчамі агентаў.

У цяперашні час палітвязні, што выжылі, іх сваякі і нашчадкі маюць права атрымаць доступ да заведзеных савецкай уладай спраў. Тым больш што сучасная літоўская дзяржава прадугледзела ў сваім заканадаўстве дапамогу, ільготы і кампенсацыі для тых, хто пацярпеў ад бальшавіцкіх рэпрэсій. Распрацаваны і механізм доступу да падобных матэрыялаў і даследчыкам з іншых краін.

## Мемуары з нараў

А ў Беларусі, як расказалі многія дэлегаты форуму, якім таксама давялося шукаць звесткі аб рэпрэсаваных у эпоху СССР сваяках, засакрэчаныя справы ў архіве КДБ да гэтага часу паказваюць адмысловым спосабам – закрываючы месцы з прозвішчамі следчых і даносчыкаў паперкай. Быццам бы такім чынам праяўляюць гуманізм і захаванне таямніцы асабістага жыцця – зразумела, не пацярпелых, а выканаўцаў рэпрэсій.

Чаму ж тады спадчыннікі-паплечнікі Жалезнага Фелікса не захоўвалі гэтую таямніцу прыватнасці савецкіх грамадзян у 1920–1950-х гадах, калі па лжывым даносе пераварочвалі ўверх дном чужыя дамы або выганялі цэлыя сем’і з хат у ссылку ці турму? Навошта пісалі “памёр”, калі самі прыгаворвалі арыштаваных “ворагаў народа” да так званай меры сацыяльнай абароны – так у сталінскія часы мудрагеліста называлі кулю ў патыліцу? Чаму не паведамлялі месцы пахаванняў тых, каго расстрэльвалі па палітычных матывах? Вельмі выбарачнае ў нас стаўленне да чужых правоў, годнасці і мыслення!

Такі вось дзіўны ў нас менталітэт: добрыя традыцыі і родную мову мы забываем, а непаважлівае стаўленне да правоў грамадзян нясём у сабе, як рудымент савецкага мінулага, які намёртва прырос да свядомасці многіх чыноўнікаў і ніяк не жадае адваліцца!

Вельмі паказальным у гэтым сэнсе было выступленне **Зміцера Дразда**, аўтара кнігі “Бунт батанікаў”, прэзентацыю якой разам з кнігай **Ігара Аліневіча** “Еду ў Магадан” і цэлай серыяй “Беларуская турэмная літаратура” ў рамках форуму правёў праваабарончы цэнтр “Вясна”. Зміцер, які любіць сядзець – не, не ў турме, пра знаходжанне ў якой напісаў кнігу, а ў архівах – паказаў адказ з Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, куды ён 17 верасня гэтага года звярнуўся з прапановай зняць грыф сакрэтнасці з палітычных спраў 1917–1953 гадоў і забараніць прапаганду сталінізму. Каварства, калі не сказаць блюзнерства, афіцыйнага адказу здзіўляе: маўляў, такая прапанова “супярэчыць артыкулу 33 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якой кожнаму грамадзяніну гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне”.

Так і хочацца задаць пытанне: а калі сваё меркаванне захоча публічна выказаць расіст або нават фашыст, яму таксама прыйдзе на дапамогу беларуская Канстытуцыя?

***

Кнігу Зміцера з аўтографам і кнігу Ігара без аўтографа я прывезла ў Мінск. Па дарозе, праўда, гадала: ці будуць адбіраць іх на мяжы альбо не? На шчасце, ніхто на змесціва маёй валізкі не пасягаў. Так што шкадую, што не папрасіла яшчэ кнігу Алеся Бяляцкага, якую таксама можна было атрымаць на форуме з аўтографам аўтара.

### Якія яшчэ пытанні разглядаліся на форуме?

Парадак дня форуму быў вельмі шчыльны. Трапіць на ўсе мерапрыемствы, якія праходзілі паралельна, было проста немагчыма. Таму назаву толькі некалькі тэм:

“Досвед выкарыстання крытэрыяў вызначэння палітвязняў”,

“Падыход, заснаваны на правах чалавека, – пашырэнне сярод праваабаронцаў і партнёраў”,

“Права на інфармацыю ў Беларусі: што з ім не так і што мы можам зрабіць дзеля паляпшэння становішча?”,

“Новыя выклікі для правоў чалавека ў лічбавую эпоху”.

Паводле вынікаў працы форуму былі прыняты **Заява** і **Рэзалюцыя.**

**P.S.** Ужо закончыўшы артыкул, стала яшчэ раз успамінаць ключавыя моманты форуму. Тым больш што і ў цягніку па дарозе дадому працягваліся размовы на праваабарончую тэму з дэлегатамі, якія вярталіся ў Мінск. Безумоўна, адно з галоўных пытанняў: як беларускае грамадства ставіцца да праваабаронцаў, ці ведае адрасы, куды звяртацца ў выпадку неабходнасці? Апошнія трагічныя падзеі ў беларускім войску сведчаць: ведаюць, знаходзяць, звяртаюцца. Але ў мяне ёсць і яшчэ адзін адказ на гэтае пытанне. Вось, здавалася б, два вельмі падобныя нават па гучанні тэрміны: праваахоўнікі і праваабаронцы. А асацыяцыі ўзнікаюць зусім розныя! Хоць, здавалася б, у прававой дзяржаве просты чалавек павінен з роўнай ступенню даверу ставіцца і да першых, і да другіх. Дакладней, да першых нават больш. І калі першыя працуюць сумленна, то другім не будзе чаго рабіць. Але ж ім работы пакуль стае…

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**

ЧУЛІ?

# Беларусы могуць зарабіць на «Гульні тронаў»

*Украінская букмекерская кантора «Пары-матч» запрашае рабіць стаўкі на пераможцу ў барацьбе за трон Сямі каралеўстваў.*

Гэта ўжо факт: амерыканскі серыял “Гульня тронаў” (Game of Thrones) – самы папулярны серыял у свеце. Падлічана, што з 2011 года – пасля прэм’еры першага сезона – кожную серыю “Гульні тронаў” глядзяць у сярэднім 18,4 млн (!) гледачоў.

Гэтай зімой рэжысёры пачнуць здымаць восьмы – заключны – сезон фэнтэзійнай сагі. І, каб захоўваць інтрыгу і трымаць гледачоў у напружанні да канца серыяла, вырашана зняць некалькі альтэрнатыўных фіналаў. Прычым гэта не чуткі, а заява канала HBO – афіцыйнага транслятара стужкі.

Справа ў тым, што шалёная папулярнасць серыяла спарадзіла сапраўднае паляванне журналістаў за падзеямі на здымачнай пляцоўцы. Яны самымі неверагоднымі спосабамі імкнуліся пранікнуць на месца здымак, каб атрымаць інфармацыю пра тое, што адбудзецца ў наступных серыях. Таму прадзюсары і вырашылі зрабіць тры падстаўныя канцоўкі. Прычым яны абяцаюць, што таямніца фіналу будзе ахоўвацца так моцна, што нават самі акцёры не атрымаюць ніякай інфармацыі. Усе сцэны будуць здымацца як сапраўдныя, і які фінал праўдзівы, акцёры даведаюцца разам з усімі.

Для мільёнаў тэлегледачоў можа стаць займальнай іншая гульня. Многія букмекерскія кампаніі прымаюць стаўкі на пераможцу ў вайне за Жалезны трон Сямі каралеўстваў. У іх ліку і ўкраінская “Пары матч”, якая запрашае і беларусаў паспрабаваць зарабіць на любімых героях.

– *На сённяшні дзень у Беларусі зроблена некалькі соцень ставак*, – расказаў “Народнай Волі” прадстаўнік кампаніі **Сяргей Каласкоў**. – *Самая высокая з іх – 100 долараў: кліент паставіў на перамогу Джона Сноў. Яшчэ адзін беларус паставіў 80 долараў на Дэйенерыс Таргарыен. На астатніх персанажаў ставяць у сярэднім 5–10 долараў.*

Паводле слоў Сяргея Каласкова, цікавасць да ставак на персанажаў “Гульні тронаў” вялікая, “Пары-Матч” прымае стаўкі не толькі ва Украіне і ў Беларусі, але і ў Расіі, Казахстане і Грузіі.

Што да прагнозаў букмекераў, то найбольш верагодным пераможцам “Гульні тронаў” яны называюць бастарда Джона Сноў. На перамогу гэтага персанажа букмекеры даюць найменшы каэфіцыент – 3.

– *У Дэйенерыс Таргарыен каэфіцыент 5, пры гэтым найбольшая колькасць ставак (31%) прыпадае менавіта на гэтага персанажа*, – распавядае маркетынг-дырэктар “Пары Матч” **Ілля Курачкін**. – *Сэрсэю Ланістэр не вельмі любяць гледачы – яе перамогу прагназуюць ўсяго 4%. З каэфіцыентам 8 яна на трэцім месцы. “Кароль ночы” – важак белых хадакоў і Цірыён Ланістэр маюць роўныя каэфіцыенты ад букмекераў – 12. Пры гэтым на ўладальніка самага вялікага войска ставяць 13% гульцоў, тады як на карліка – усяго 5%.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
27 КАСТРЫЧНІКА 2017 г.

ПАЗІЦЫЯ

# Я – за Сінгапур!

Мы ўжо ведаем нямала прыкладаў, калі карупцыянеры і неплацельшчыкі падаткаў адкупіліся грашыма ад турэмных нараў. А я лічу, што парушальнікам закона трэба абавязкова пабываць за кратамі, бо ім толькі пакажы пралаз – яны яго будуць выкарыстоўваць раз-пораз.

У Сінгапуры ўведзены драконаўскія законы і штрафы. І там удалося навесці ідэальны парадак на вуліцах, у грамадскіх месцах, ва ўсіх сферах эканомікі. Нам, магчыма, такая жорсткасць не падыхозіць, але трэба строга прытрымлівацца тых законаў нашай краіны, якія існуюць, а не валюнтарысцкі парушаць іх.

**Аляксей БУЦЬКО.**

*Гродна.*

УСМЕШКА МАСТАКА

# Лось-эмігрант

*Незвычайнага парушальніка зафіксавалі камеры відэаназірання на беларуска-літоўскай мяжы. Аказваецца, з Беларусі ў Літву «эмігрыраваў» лось. Звер так імкнуўся збегчы ў суседнюю краіну, якая даўно ўваходзіць у склад Еўрасаюза, што нават пераскочыў двухметровы плот, усталяваны на мяжы!*




Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

ИЗ ПИСЬМА

# Мышиная слеза…

Пенсионерам с 1 ноября поднимут пенсии. На сколько? В среднем на 5 процентов. Если пенсия у кого-то 300 рублей, то соответственно прибавка будет на 15 рублей. Что за эти деньги можно купить? Скажу откровенно – это один скромный поход в магазин.

Конечно, может быть, на всех пенсионеров денег в бюджете и не хватает. Некоторые на пенсии, кстати, стараются подработать, а вот пенсионеры-инвалиды такого позволить себе уже не могут. При этом умные головы предлагают повысить пенсионный возраст и мужчинам, и женщинам. Оставьте в покое хотя бы женскую половину! Им и так живется нелегко, особенно многодетным матерям. Пускай наши чиновники лучше думают не о повышении пенсионного возраста, а об увеличении зарплат и пособий.

И вообще, я выступаю за то, чтобы сократить количество чиновников. Различных контролеров, так называемых «помощников» и даже депутатов… Ведь фактически страной руководит президент.

Возможно, если уменьшить армию чиновников, то и пенсионеры смогут получить достойные надбавки.

**Юрий ЯСИНСКИЙ,
пенсионер, ветеран труда,
инвалид 2-й группы.**

ОБСУДИМ!

# Нужны ли нам выборы?

В феврале следующего года состоятся очередные выборы. В этой связи мне вспомнилось публичное заявление, сделанное в ноябре 2014 года одним из самых известных противников существующей власти, которого эта власть неоднократно и жестко била в прямом и переносном смысле. Приведу ключевые слова этого заявления: *«Какие вообще выборы в Беларуси? На их проведение планируется потратить 100 миллиардов рублей… Раздайте лучше все эти деньги пенсионерам на лекарства. Выборы в нашей стране нужно просто отменить, они нам не нужны…».*

На тот момент, если поделить эту сумму между всеми белорусами от мала до велика, каждый получил бы по одному доллару. Если вспомнить о морях крови, пролитых народами мира в борьбе за всеобщее и равное право избирать власть, так ли велика цена этого права в Беларуси? И много ли радости доставят эти деньги, розданные пенсионерам – каждому по 4 доллара, если это, например, стоимость упаковки (14 таблеток) препарата, который сердечники принимают по одной пилюле в день. Таблеток хватит на две недели, а власть избирается на четыре года.

Так нужны ли нам выборы?

В годы развитого социализма нам всем хотелось демократии. Ее приход привел к власти человека, который в ходе самых демократических выборов в истории Беларуси получил от прокоммунистического Верховного Совета, как он сам сказал, «царские полномочия» и в короткие сроки эти полномочия расширил до неограниченности. Демократы стали «дерьмократами», а с правами человека как была проблема, так и осталась.

На последних президентских выборах я пришел на избирательный участок, как всегда, около половины восьмого вечера. И, прежде чем расписаться за полученный бюллетень, попытался посмотреть, сколько моих соседей по 119-квартирному дому получили бюллетени до меня. Список избирателей был, можно сказать, чист. Члены избирательной комиссии с раздражением растолковали мне, что я не имею права брать в руки их бумаги (вдруг украду!) и могу лишь расписаться на той странице, где есть моя фамилия. Эту самую страницу член избирательной комиссии держала двумя руками и разговаривала со мною так, как будто именно я виноват в ее неудавшейся личной жизни. В итоге в списке появилась вторая – моя – подпись. Но к этому времени даже российское НТВ успело сообщить о том, что выборы в Беларуси состоялись, а явка избирателей составила 67 с чем-то процентов.

Об этом я написал в одну госгазету, но редактор опубликовать мою заметку не решился.

Может быть, правы те, кто считает свое участие в выборах бесполезным – все равно избирательные комиссии «проголосуют» как надо – и на выборы не ходит принципиально? Я же полагаю, что именно пренебрежение избирателей своим правом на голосование и есть основная причина «выборов в одни ворота». Давайте представим себе, что на участки в день выборов явятся все избиратели. Это исключает манипулирование процентом явки. Желание всех избирателей выразить свою волю заставит членов избирательных комиссий, которые нынче по сути исполняют волю власти («раз людям все равно, сделаем как надо»), ответственно подойти к своим обязанностям. Власть должна увидеть, что граждане способны понять простую истину: нас много, когда мы вместе. Всеобщая явка на выборы – это первое и необходимое условие реальной демократии, точно так же, как необходимость мыть руки перед едой. И сегодня нет для настоящих политиков задачи более важной, чем добиться этой явки. Думаю, что люди к этому готовы, поскольку многолетняя говорильня власти о ежечасной заботе о благосостоянии людей завела страну в тупик. Нужно убедить граждан сказать свое слово в политике.

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ,
инженер.**

РЭЗАНАНС

# А калі паглядзець на праблему з другога боку…

З цікавасцю прачытаў артыкул кандыдата эканамічных навук Віталія Павука пад назвай “Хто спыніць аграрную гігантаманію?” (“Народная Воля”, 24 кастрычніка). Але, на мой погляд, аўтар крыху аднабока падышоў да разгляду праблемы. Вялікія калектыўныя гаспадаркі ўсё ж маюць некаторыя перавагі перад дробнымі. Сучасная высокапрадукцыйная тэхніка эфектыўна выкарыстоўваецца пры поўнай загрузцы. Для гэтага ёй неабходны выхад на вялікія плошчы, а не на палеткі з малой контурнасцю. З другога боку, нявыгадна ганяць яе ўхаластую за 15–20 кіламетраў. Таму правільна аўтар ставіць пытанне: калі гаварыць пра скарачэнне транспартных выдаткаў, то ў аддаленых брыгадах, аддзяленнях могуць быць пабудаваны невялікія жывёлагадоўчыя фермы, стаянкі трактароў, аўтамабіляў і прычапнога інвентару, прыведзены ў парадак унутрыгаспадарчыя дарогі.

Я лічу, што ўладам трэба звярнуць увагу на такую акалічнасць: а ці спрыяе гігантаманія ў аграрным сектары выхаванню сапраўднага гаспадара зямлі? Хвалімся аграгарадкамі, але ж у іх мала моладзі. Чаму? А таму, што іх нішто не затрымлівае на “малой радзіме”. Бацькі – не ўласнікі, яны – наёмная сіла ў тых жа СПК. Адпрацавалі ўсё жыццё, выйшлі на пенсію – і нічога не маюць. Няма чаго перадаць дзецям: зямля не іх, тэхніка не іх, усё, што яны пабудавалі, не іх. Дык дзеля чаго дзецям заставацца ў вёсцы?

Праблема ды яшчэ якая! Пагоня за маштабнасцю ў сельскай гаспадарцы, неналежнае стаўленне да фермераў, да іх праблем, адсутнасць прыватнай уласнасці на зямлю – усё гэта негатыўна адгукнецца ў недалёкай будучыні. Ёсць станоўчы вопыт многіх замежных краін, на яго і трэба абапірацца нашаму ўраду.

**Мікалай ГУДКЕВІЧ,
пастаянны чытач “Народнай Волі”.**

МНЕНИЕ

# Кто они, председатели садоводческих товариществ?

Как-то прочитал в «Народной Воле» обращение председателей садоводческих товариществ. Хочу высказать свои соображения на этот счет. Я дачник со стажем, был даже председателем ревизионной комиссии, много наслышан о деятельности других товариществ.

Как известно, дачники в большинстве своем это люди пенсионного возраста. Им нужно спокойно, без нервотрепки работать и отдыхать на выкупленных у государства клочках земли. Но иногда их лишают и этого права. Над ними обязательно кто-то должен стоять чуть ли не с дубиной и указывать, как им вести свое хозяйство: как пахать, как сеять, что сажать и так далее. Это прежде всего те самые председатели садоводческих товариществ – как правило, люди молодого возраста, поставившие своей целью заработать на пенсионерах. Чаще всего они подбирают себе окружение из близких друзей, иногда родственников и ведут потом себя как уездные князьки, повышая себе зарплаты каждый год, а то и два раза за год. У многих уже зарплаты такие, что превышают пенсии, а то и зарплаты учителей.

А какая их работа? Подчас никакой не видно. Главная их работа – это держать печать в руках и мнить себя большими начальниками, от которых все члены товарищества находятся в зависимости, ведь чуть ли не каждому дачнику приходится обращаться к ним за какой-либо справкой.

Поэтому и деятельность их сводится к ужесточению мер по отношению к членам товарищества. Это только со стороны кажется, что можно все вопросы разрешить на общем собрании. Но это далеко не так. Проведение общего собрания, как правило, идет с нарушением Устава товарищества. Порой председатель товарищества сам ведет собрание, навязывает собравшимся повестку дня, проталкивая вопросы, которые необходимо ему решить, а не те, которые волнуют простых членов товарищества; составляются затем протоколы собрания, какие им угодны, и так далее.

Поэтому многие члены товарищества отказываются вносить членские взносы, которые не всегда известно на что идут.

В заключение хотелось бы предложить следующее. Прежде чем вносить какие-либо дополнения в указ президента, представителям районных властей следует побывать на собраниях садоводческих товариществ, выслушать мнения рядовых их членов, а потом вносить какие-либо изменения.

**Василий Семенович
БОЛДЫШЕВ, пенсионер,
дачник.**

МЫСЛИ ВСЛУХ

# Медвежьи услуги

Не успел еще утром встать – звонок:

– Здравствуйте, меня зовут Аня. Это служба сервиса. Сегодня мы проводим в вашем доме плановый осмотр окон. В какой половине дня к вам можно зайти?

– У меня новые стеклопакеты. Недавно поставлены, – отвечаю. – Служат нормально, что на них смотреть?

– Ну все равно… Разрешите? К вам зайдет наш мастер.

Продолжаю отказываться от совершенно ненужного мне визита и кладу трубку. Через некоторое время снова тот же звонок. Я в это время был занят, и к телефону подошла жена. Ее удалось уговорить.

После обеда пришел молодой парень. Увидев мое хмурое лицо, сразу протянул бумагу:

– Вот разрешение горисполкома. У нас все по закону.

– Я уже устал от подобных звонков и разного рода бесполезных предложений, – объясняю своему «благодетелю». – То шубу предлагают на ярмарке купить со скидками, то посетить какую-то расчудесную выставку… Теперь вот вы с аналогичным предложением. Я хочу написать о такой назойливости в газету.

Посетитель насторожился:

– В какую газету? И вы не боитесь?

– Мне нечего бояться, я ничего не нарушаю. Это вам скорее надо бояться. Используете чужие телефоны, приходите без вызова и без нужды.

Парень снова ткнул пальцем в официальную бумагу и пошел к окнам. Подергал резиновую прокладку – не отдирается.

– Да, у вас действительно все в порядке, – констатировал он.

– Ну и зачем было приходить? Вам же все объяснили.

– Да работа мне нужна! – с досадой воскликнул он. – Как вы этого не понимаете?!

Понять это как раз не так уж трудно, только при чем тут мы – рядовые жители, часто старые и больные? Зачем понапрасну беспокоить нас звонками и визитами?

А в рабочей ведомости мастера пришлось расписаться. Внизу. А вверху еще много осталось разлинеенных пустых строчек – дописывай что хочешь, а хочешь – готовься к новым посещениям. Только нужны ли они людям? Уж очень напоминают эти вторжения похождения вымышленных детей лейтенанта Шмидта из «Золотого теленка» Ильфа и Петрова. Там, если помните, однажды дело закончилось принудительным выносом наглецов из административного здания. А кто же защитит нас?

Звонки же между тем не умолкают. Неизвестные Ани, Светланы, Наташи от лица каких-то компаний просят разрешить осмотреть входную дверь, балкон, компьютер… Дважды уже звонили из некоего электросервиса. На вопрос «В чем будет заключаться проверка?» девушка ответила:

– Вставят в розетку прибор, замеряют…

– Напряжение, что ли?

– Ну да…

– Но лампочки у меня горят, оборудование работает. Если что будет не в порядке, дам заявку электрику ЖЭСа, как это делал всегда. Зачем мне лишняя услуга?

Опять ссылка на горисполком – мол, все по закону. И на плановость – действительную или надуманную, поди разберись. Сразу возникает вопрос: не слишком ли много плодит наше городское начальство всякого рода надстроечных контор? Выдает разрешения направо и налево. Уж не родственников ли и друзей подобным образом пристраивает на непыльную работу? Допускаю, что какие-то дополнительные (подчеркиваю!) службы и нужны на самом деле в помощь уже существующим. Время-то не стоит на месте. Но обозначьте их официально, сделайте их деятельность прозрачной. А главное – объясните им, как следует действовать. Я думаю, что не так назойливо, как теперь. Почему они должны шастать по квартирам, как незваные гости? Уж очень похоже это на медвежьи услуги, а то и похуже.

Вот звонят, например, из водоканала: надо менять приборы учета воды. Срок службы прежних, оказывается, всего пять лет. «Не беспокойтесь, все бесплатно», – уверяют. В оговоренное время приходят двое подрядчиков, отвинчивают старые счетчики, один из них спрашивает:

– Вам говорили, что мы ставим счетчики, бывшие в употреблении?

– Нет, первый раз слышу.

– Тут и цифры-то мелкие. Наверное, плохо различаете? Можно было бы поставить с большими. Бегите , пока не поздно, в магазин.

– А у вас с собой они есть?

– Вот у него, – кивает на напарника, – все есть. Только это стоить будет… – называет цену – порядка тридцати или сорока рублей (точно уже не помню).

Такие хитрости мне уже знакомы по некоторым другим случаям. «Не очень-то разгонишься с нашей пенсией», – отвечаю. И отказываюсь. Не хочется на старости лет поощрять откровенное надувательство.

К числу медвежьих услуг можно отнести, пожалуй, и новшества в справочной службе. Типа слов, раздающихся после набора номера: «Соединение установлено, подождите, пожалуйста!» Уточнение излишне, и так ведь по гудкам понятно. Есть немало и других подобного же рода. С длиннющими пояснениями из служебной инструкции и даже в сопровождении музыки. Они просто раздражают, необходимости в них нет. Раньше прекрасно обходились и без них. Хочется иногда сказать: «Экономьте время, господа! И свое, и чужое». Только ведь никто не услышит – там, в трубке, бездушный автоответчик.

Не могу пройти мимо и той широко распространенной у нас услуги, что нередко портит облик самого города. Это совершенно ненужная в ряде мест реклама. Как-то в «Народной Воле» писали о сплошь заклеенном рекламой подземном переходе на станции метро «Октябрьская». Там, слава богу, прислушались к критике и убрали. Но взамен огромные плакаты с рекламой вынырнули недавно на станции «Академия наук». Кому-то пришло в голову демонстрировать здесь бани и другие хозяйственные строения. Может, заодно уж и веники сюда пририсовать для полноты картины? И это по соседству со штабом науки и тремя солидными учебными заведениями. Еще как-то можно было бы оправдать появление здесь рекламы достижений ученых или портрета какого-либо видного отечественного исследователя, которых в стране немало. Но бани? Это уж чересчур, как, впрочем, безоглядное рекламное обилие вообще. Этак недолго и до правительственных стен добраться, и до президентских. Там столько свободного места даром пропадает!

Отрадно, что поток туристов в столицу Беларуси все увеличивается. Показывайте им, пожалуйста, наши реликвии, исторические и культурные памятники, природные ландшафты и так далее – посмотреть в Минске есть на что. Вот это истинное лицо города. Не надо осквернять его уродливыми коммерческими художествами частного порядка. Особенно на непредусмотренных для этого местах.

**Леонид ЕМЕЛЬЯНОВ,
житель Минска.**

ПРИЗНАТЕЛЬНОСТЬ

# Помним и через 50 лет

Добрый день, уважаемые сотрудники редакции «Народной Воли»!

Пишут вам выпускники Лидского индустриального техникума (так он когда-то назывался). Прошло уже почти 50 лет, как мы покинули стены этого заведения. До сих пор помним свою юность, учебу. У нас была лучшая на свете классная руководительница – Анна Адольфовна Сегень, наша вторая мама.

Учились тогда, в конце 1960-х – начале 1970-х годов, в техникуме юноши и девушки со всего бывшего Союза – из Беларуси, Украины, Литвы, Латвии, Эстонии, России... Приезжали молодые, еще дети, 15–16-летние учащиеся, многие впервые оказались далеко от дома, без родительской опеки. И здесь нас встречала Анна Адольфовна: кому-то помогала заселиться в общежитие, кого-то надо было поддержать морально. Для всех находила доброе слово, время, силы, частицу души. Она была талантливым педагогом (преподавала Анна Адольфовна немецкий язык), добрым и справедливым человеком, в каждом из нас находила что-то хорошее и помогала развивать это качество.

Ходили в походы, устраивали «Огоньки» и «Капустники» – всегда было интересно, если с нами рядом была Анна Адольфовна.

Годы учебы пролетели незаметно, прошел выпускной. Все разъехались. Ребята после техникума уходили в армию, девчата – кто шел работать, кто продолжал учебу в вузе, кто-то выходил замуж. Но и после окончания техникума мы не забывали Анну Адольфовну, а она – нас. Ребята писали письма бывшему классному руководителю из армии, делились своими солдатскими буднями, планами на будущее. Девушки писали о своей работе, учебе, личной жизни. Все поздравляли Анну Адольфовну с праздниками – Днем учителя, 8 Марта, Новым годом и так далее, вспоминали годы учебы в техникуме.

В этом году в июле Анне Адольфовне было бы 85 лет. Жаль, что уже 22 года нашего лучшего классного руководителя нет с нами. Но мы помним и любим нашу Анну Адольфовну!

Спасибо ей за все то доброе, что она сделала для нас!

**Бывшие выпускники
Лидского индустриального
техникума:
Н.М.ГАНЕВИЧ,
О.М.СЕНКЕВИЧ,
Г.В.ДОМБРОВСКИЙ,
всего 25 человек.**

